Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

7 студзеня 1998 года
СЕРАДА
№ 1(81)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ -БАРАНАВІЧЫ -БЯРОЗА

## З НАРАДЖЭННЕМ ХРЫСТОВЫМ!

Праваслаўныя Каляды пачынаюцца з 7 студзеня і працягваюцца 2 тыдні, да 19 студзеня. Вельмі старажытнае свята гэта некалі адзначалася рознымі народамі свету ў гонар зімовага сонцастаяння. З прыняццем хрысціянства 7 студзеня адзначалася і як Раджство Хрыстова. Напярэдадні Каляд спраўлялася святочная вячэра — посная куцця, на якой традыцыйнай стравай была каша-куцця. Каша варылася з ячных, пшанічных ці іншых цэльных (не сечаных) круп. Да гэтага дня быў пост, таму і ўсе стравы рыхтаваліся толькі посныя.

Усяго ж на працягу Каляд было тры куцці: пасля першай поснай, 13 студзеня, спраўлялася багатая, шчодрая куцця, на якую падавалася мноства розных страў. На гэту куццю быў звычай варажыць.




І ў канцы Каляд, перад Вадохрышчам, спраўлялася трэцяя куцця.




## МЯСЦОВЫ

### Рабіць, каб выжыць

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Нягледзячы на ўладныя запэўніванні аб падтрымцы прадпрымальнікаў і аб'ектаў недзяржаўнай формы ўласнасці колькасць іх у раёне скарачаецца. Так, напачатку 1997 года ў раёне было 37 недзяржаўных суб'ектаў гаспадарання і 393 прадпрымальнікі, на канец года — 19 суб'ектаў гаспадарання і 348 прадпрымальнікаў. У гэтым ліку, як вядома, няма ўжо буйных прадпрымальнікаў У. А. Кудзінава, А. М. Басалая, А. М. Кубаркі. Мясцовы бюджэт, што таксама агульнавядома, атрымліваў ад іх штомесячна прыкладна каля мільярда рублёў у выглядзе падаткаў. Цяпер тых грошай няма, і пра іх неяк ніхто не ўпамінае (нібыта ў такіх "капейках" ніхто і патрэбы не мае). Спробы прадпрымальнікаў, якія яшчэ трымаюцца на плаву, ахарактарызаваць свой стан як прысуджаны да павольнага распаду абвяргаюцца вертыкальшчыкамі тым, што райвыканкам у мінулым годзе выдзяліў для падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу 222 мільёны рублёў. Грошы нібыта скарысталі малыя прадпрыемствы "Вяда", "Спектр", "Мэбельшчык". Чаму менавіта яны, і наогул па якому прынцыпу аказваецца дапамога, прадпрымальнікі не ведаюць.

Магчыма, гэтую праблему ды і многія іншыя прадпрымальнікам дапаможа вырашыць раённы савет прадпрымальнікаў, які створаны напярэдадні новага года. Яго старшынёй абраны прадпрымальнік з вёскі Мілейкі У. М. Рымша.

## Асноўная частка прахожых крочыла міма...

**БЯРОЗА.** Напрыканцы снежня ў г. Бярозе адбыўся пікет супраць закрыцця газеты "Свабода" і ў падтрымку маладых беларускіх палітвязняў са Стоўбцаў Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага. Раённыя ўлады ўпершыню ў тым годзе далі дазвол на правядзенне пікету Бярозаўскай раённай радзе БНФ "Адраджэнне". З паўгадзіны прастаялі сямёра пікетчыкаў пад бел-чырвона-белым (з шасціканцовым ефрасіннеўскім крыжом) сцягам і плакатамі: "Свабоду газеце "Свабода", "Свабоду Вадзіму Лабковічу і Аляксею Шыдлоўскаму", "Свабоднай Беларусі — свабодную прэсу", "Беларусь — наш дом, наш храм", "Беларусь — наша маці, Бацькаўшчына", "Усе мы — беларускі народ" — каля ўваходу ў дзіцячы парк адпачынку ад вул. Чырвонаармейскай. Міліцэйскае начальства, што праехала міма пікету, палічыла, напэўна, што зашмат людзей, якія ішлі ў нядзелю на вялікі базар і вярталіся з яго па вул. Чырвонаармейскай, пабачаць пікет. Таму міліцыянерам, прызначаным падтрымліваць правапарадак пры правядзенні пікету, было загадана перанесці пікет да цэнтральнага ўваходу ў парк ад вул. Леніна, дзе ў гэты час прахожых значна меней. Доказы пікетоўцаў аб тым, што ў распараджэнні выканкама не ўказана, каля якога ўваходу ў парк дазволены пікет, былі беспаспяховымі супраць довадаў міліцыі аб тым, што "ад вул. Чырвонаармейскай — выхад з парку, а ўваход — ад вуліцы Леніна". "Вас там іншаземцы пабачаць і на Захадзе пра вас перададуць", — даводзілі міліцыянеры (па вул. Леніна Бярозы праходзіць старая траса Брэст—Масква). Пікетоўцы вымушаныя былі падпарадкавацца і "недазволеным шэсцем" перайсці па парку да цэнтральнага ўваходу.

На пальцах адной рукі можна пералічыць тых, хто лічыў неабходным сказаць нешта абразлівае ў бок пікетоўцаў. Болей было тых, хто выказваў падтрымку. Яшчэ больш было людзей, што пыталіся, чаго тут стаяць гэтыя людзі на вуліцы, хто такія Лабковіч і Шыдлоўскі. Асноўная ж частка прахожых чытала напісанае на плакатах, дзялілася паміж сабою сваімі думкамі і крочыла далей ці проста праходзіла міма...

## ПТВ-5 — ВНУ?

**БАРАНАВІЧЫ.** Тысячы дзяўчат і юнакоў атрымалі за тры дзесяцігоддзі розныя спецыяльнасці па тэкстыльнай вытворчасці ў тэхнічным вучылішчы № 5 пры бавоўняным аб'яднанні. Цяпер на прадпрыемстве застой. Рабочых скарачаюць, многія пакідаюць яго самі. Незайздросная доля чакала вучылішча. Аднак яму не далі прапасці. Вучылішча ператорвана ў вышэйшае прафесіянальнае. Цяпер тут пачалі рыхтаваць абутнікаў, слесараў па рамонту швейнага абсталявання, страхавых агентаў. Гарадскія ўлады шукаюць магчымасці, каб павялічыць колькасць вучэбных аўдыторый і майстэрань.

## "Улетают" куры и кабанчики

**БАРАНОВИЧИ.** В деревне Почапово из подворья рабочей местного совхоза ночью кто-то увел двух кабанов. Еще два хряка "улетели" из животноводческого комплекса "Восточное". Воровство домашней птицы стало чуть ли не массовым явлением. В городе владельцы живности, наученные горьким опытом, стерегут свое добро, как зеницу ока. Поэтому злоумышленники перебазировались в деревни, где сельчане менее бдительны. Вот и "улетают" куры и кабанчики в неизвестном направлении.

Работники милиции расследуют хищения. Пока результаты неутешительные. Но будем надеяться.

## "Дапамога" — з дзецьмі

**БАРАНАВІЧЫ.** Цяжка сказаць, што рабілі б юныя гараджане без клапатлівай дзейнасці гарадскога ўпраўлення сацыяльнай дапамогі моладзі "Дапамога". У яго маладзёжных цэнтрах "Маладосць", "Сузор'е", "Сучаснік", падлеткавых клубах "Чабурашка" і "Крылы" дзеці і падлеткі знаходзяць сабе справу па душы: вяжуць, шыюць, малююць, займаюцца спортам і мастацтвам. Тысячы школьнікаў праводзяць свой вольны час у гэтых месцах, размешчаных па месцы жыхарства.

## Будзе мемарыяльны знак

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Каардынацыйны савет па ахове матэрыяльнай і духоўнай спадчыны пры Брэсцкім аблвыканкаме прыняў рашэнне ўзвесці на радзіме Тадэвуша Касцюшкі — у былым фальварку Марачоўшчына — мемарыяльны знак.

Фонд Тадэвуша Касцюшкі даўно выступіў з ініцыятывай увекавечыць памяць славутага земляка. Макет мемарыяльнага знака быў падрыхтаваны некалькі гадоў таму, але аблвыканкам не зацвердзіў тэкст, які прапаноўваўся напісаць на дошцы. На жаль, да 250-годдзя з дня нараджэння Т. Касцюшкі рашэнне аб устаноўцы знака прынята не было.

Як паведаміў старшыня Фонду Т. Касцюшкі Леанід Несцярчук, мемарыяльны знак будзе ўстаноўлены сёлета. Зацверджана і надпіс на камяні: "Тут, ва ўрочышчы Марачоўшчына, нарадзіўся Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка, вялікі сын беларускай зямлі, які ў далейшым стаў нацыянальным героем Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, ганаровым грамадзянінам Францыі. Удзячныя нашчадкі Брэстчыны".

● ПРОШУ СЛОВА

## Раны лечит время...

Уважаемые читатели! Вот еще один год канул в лету — 1997. Чем же он порадовал нас, простых тружеников города и села? Можно прямо сказать: «не заглянуло солнце в наше оконце».

С трибуны Палаты представителей и государственных СМИ постоянно вещается о некоем небывалом росте экономики, стабилизации промышленного и сельскохозяйственного производства, о решительных шагах подлинной демократии в нашей республике. Однако в сравнении с декабрем 1996 года цены на продукты питания, промышленные товары и платные услуги повысились в два раза. После референдума 1996 года курс национальной валюты упал по отношению к доллару более чем в два раза. При стабильном развитии экономики — бешенный рост цен? Такого не бывает. В результате такого благополучия большинство семей в стране едва сводят концы с концами. Как живут люди, чьи пенсии и зарплаты в двое ниже прожиточного минимума, особенно объяснять не стоит.

70 лет всенародно «любимые», «выдающиеся вожди», «верные ленинцы» вели крупнейшую страну мира в светлое будущее. Управляли страной, имевшей неисчислимые природные богатства. Развалили и разграбили эту страну, потом стали «демократами», обманув народ в очередной раз.

Сколько уже сменилось всенародных Конституций, а человек труда как был, так и остался бесправным. Ему платят ровно столько, чтобы не сдох от голода и был способен кормить дармоедов. Его бьют, чтобы запугать раз и навсегда, его запугивают политикой и независимыми газетами, чтобы самим день и ночь по радио и телевидению оболванивать и обманывать. Его пугают империалистами, где рабочий человек получает зарплату в сотни раз больше «хозяев нашей страны», его тянут в Россию, где уровень жизни за гранью нищеты...

70 лет нам «открывали глаза» на «механизм буржуазной госмашины и гнилое нутро капиталистического общества». А после распада СССР все страны, появившиеся на этом пространстве, бросились просить помощи у этого самого «гнилого нутра».

70 лет мы твердили о том, что наше общество самое демократическое и самое гуманное. Сейчас же, по словам специалистов, 30% осужденных или около этого сидят в белорусских тюрьмах за преступления, которых они никогда не совершали. Общество загнало их на нары, общество без вины их осудило, и это общество претендует называться демократическим.

Анализируя тенденции нашего «поступательного» движения вперед, приходишь к выводу, что путь, который избран республикой, тупиковый. Страшно подумать, что сельское хозяйство планомерно движется к самоуничтожению. Поэтому сегодня всем здравомыслящим людям ясно, что шум вокруг коррупции затеян исключительно в политических целях для прикрытия экономического коллапса.

Кризис, постигший Республику Беларусь, продолжает нарастать со скоростью летящей кометы. Мы видим страну, идущую назад, а по сути, оставшуюся коммунистическим раем для демагогов и бесправным адом для работяг. Не поэтому ли многие политики, экономисты, бизнесмены на Западе уже готовы вычеркнуть Беларусь из общеевропейского процесса.

Но, как говорят в народе, раны лечит время. Хочется верить, что все еще может образоваться и пойти так, как и должно идти в цивилизованном обществе. Ибо каждому хочется жить в стране, где есть будущее, где есть законы, и они одинаковы для всех. По крайней мере наш многострадальный народ это заслужил. Но достичь желанной цели, осуществить свои замыслы и надежды на таком крутом изломе истории нашей республики мы сможем лишь тогда, когда восполним дефицит смелости и духовно вооружимся национальной идеей.

Верю, в наступившем году мы возобладаем этими качествами и ценностями.

От души поздравляю всех читателей «Газеты для вас» с Новым 1998 годом. Пусть в этом году сбудутся все ваши мечты, надежды и чаяния. Пусть он станет для вас годом перемен к лучшему. Пусть сопутствуют вам во всем только удачи. Пусть 1998 год будет богатым на радость и счастье в каждом вашем доме. Всем вам, вашим детям и внукам - крепкого здоровья, мира, благополучия и достойной жизни. Пусть ваши сердца наполнятся верой и любовью к Богу и тогда появится воля Господня на лучшую и достойную жизнь, ибо Господь Бог нас любит.

С Новым годом и праздником Рождества Христова! Мира вам и счастья!

*И. ВАБИЩЕВИЧ,*
*помощник депутата Верховного Совета РБ Кудинова В. А.*

● КОЛА ДУМАК

# Ой, сэрца, лянок...

*Івацэвіцкі льнозавод — адно з буйных прадпрыемстваў раёна. Як жа яно пераходзіць на рэйкі «рынычнага сацыялізму», чым жыве працоўны калектыў завода? Гэтыя і іншыя пытанні цікавілі нашага карэспандэнта, які сустрэўся з дырэктарам ільнозавода У. А. МЯЦЕЧКАМ.*



**— Уладзімір Аляксандравіч, пражыты яшчэ адзін год. Чым быў адметны ён для Вашага калектыву?**

— Скажу шчыра, я не прыпомню такога цяжкага года, як мінулы. А ўсё пачалося раней, два гады назад. У 1995 годзе з-за веснавых замаразкаў і летняй спёкі ў гаспадарках-пастаўшчыках вырас лён нізкай якасці. Як вынік недаатрымалі прадукцыі на суму сто тысяч долараў ЗША. Для нашага прадпрыемства гэта было адчувальным ударам і вярнуць згубленае аказалася вельмі складана. Гэта першае.

Па-другое, ніяк не змаўчыш: мінулы кастрычнік для нашага калектыву быў не толькі напружаным і цяжкім, але і стратным. Згубілі мы 300 мільёнаў рублёў. Чаму? Сыравіна, якая да нас паступала, была павышанай вільготнасці. Гэта запатрабавала вялікай затраты цеплавой і электрычнай энергіі, амаль у тры разы.

А трэцяе вось што. З ільну раней выраблялі толькі доўгае і карыснае валакно ды паклю. Гэтую сыравіну ахвотна куплялі, бо цана яе невысокая. А для нас нявыгадна, таму што не пакрывае ўсіх затрат асноўнай вытворчасці. Зусім іншая справа, калі той жа лён ідзе валакном у стужцы, ачосамі, яшчэ лепш — ніткай або тканінай.

**— І гэта, відаць, Вы зразумелі ў працэсе вытворчай дзейнасці, што выгадна і што нявыгадна, дзе губляем і дзе знаходзім. З чаго ж прыйшлося распачынаць рэканструкцыю вытворчасці?**

— Ведаеце, мы свядома сталі на шлях паглыбленай перапрацоўкі льну, каб экспартаваць не пярвічную сыравіну, продаж якой прыносіць страты, а валакно — рэнтабельную і валютаакупную прадукцыю. Пачалі з таго, што закупілі і ўстанавілі тэхналагічную лінію па перапрацоўцы трапанага льну ў стужку і выпуску ачосаў. Гэтая прадукцыя на складзе не затрымліваецца і, вядома, дае добры прыбытак. Але ж новая лінія невялікай магутнасці, таму не пакрывае ўсіх расходаў па вытворчасці.

Хачу зазначыць, што льновалакно ў стужцы і ачосы — гэта яшчэ не канчатковае звяно ў тэхналогіі перапрацоўкі льну. Можна і трэба вырабляць ільняную нітку для дывановай пражы, шпагат і так званае катанізіраванае валакно, якое заменіць баваўну.

**— Новая справа не толькі прыцягальная, але і цяжкая. Як Вы, Уладзімір Аляксандравіч, рабілі першыя крокі па ажыццяўленню задуманага?**

— Першыя крокі даліся, можна сказаць, з невялікімі праблемамі. Мы падпісалі з чэшскай фірмай «Одра Традзінг» кантракт на пастаўку камплекта абсталявання з васьмі машын для перапрацоўкі льну ў тэхналагічным ланцугу «дывановая пража — льняны шпагат—катанізіраванае валакно». Мы пайшлі на падпісанне яго, таму што па папярэдняй дамоўленасці з кіраўніцтвам «Белзнешэканомбанка» нам абяцалі выдзяліць валютны крэдыт. З гэтай мэтай мы распрацавалі і перадалі ў той жа банк бізнес-план. У далейшым іх там аказалася чатыры.

Варта падкрэсліць, што за кожным з гэтых планаў вельмі напружаная і карпатлівая праца эканамістаў і экспертаў, якія гарантавалі перспектыўнасць праекта, яго хуткую акупнасць і беспраблемнасць вяртання крэдытаў.

Каб застрахавацца ад нейкіх непаразуменняў, Брэсцкі аблвыканкам прыняў рашэнне, як дадатковы гарант вяртання крэдыту, аб залогу вытворчага корпуса і кацельні прадпрыемства, кошт якіх ацэньваецца на суму 400 тысяч долараў.

**— І на колькі ўсё гэта садзейнічала далейшаму абнаўленню вытворчасці?**

— Калі пачатак нас абнадзеіў, то далейшы ход падзей замарудзіўся, і трэба было прабіваць неяк гэтую сцяну глухаты і абыякавасці, даказваць сваімі разлікамі, што мы на правільным шляху і нікольні не памыліліся.

Банк, згадзіўшыся спярша на крэдыт, затармазіў потым яго выдачу, не верачы ў перспектыўнасць праекта. Тады мы пайшлі на ўступкі і абавязаліся асвоіць напачатку толькі першую частку праекта, гэта значыць вытворчасць дывановай пражы. Для гэтай мэты спатрэбілася б сто тысяч долараў.

Не чакаючы атрымання такіх грошай (а іх нам яшчэ не давалі), мы са сваіх сродкаў назбіралі сорак тысяч «баксаў», закупілі на іх тры машыны з васьмі і сваімі сіламі ўстанавілі на заводзе.

**— Як я разумею, Вы, Уладзімір Аляксандравіч, відаць, хацелі паказаць вышэйшым чыноўнікам, што справа з карэннай рэканструкцыяй вытворчасці ўжо да канца прадуманая, пралічаная і не можа быць ніякіх адступленняў ад намечанага!**

— Сапраўды, так. Не трацілі б мы свае апошнія грошы на першыя тры машыны. Мы ўпэўнены, што першая частка праекта пры дзвюхзменнай рабоце і гадавой праграме вытворчасці ніткі ў 380 тон дазваляе атрымліваць штогод прыбытку пры існуючых цэнах у суме 252 тысячы долараў.

Самі бачыце, што эканамічная выгада ёсць. І вялікая. А калі ажыццёвім увесь праект, то карысць будзе і прадпрыемству, і дзяржаве. А гэта стабільная работа завода, новыя рабочыя месцы, добрая заработная плата, сацыяльныя праграмы, рэгулярнае адлічэнне падаткаў і г. д.

І яшчэ. Наш завод возьме на сябе значную долю дацыравання вытворцаў ільну, а гэта 18 гаспадарак Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. А катанізіраванае валакно, якое абавязкова будзе выраблядца, заменіць на бавоўняных прадпрыемствах бавоўну, на якую дзяржава расходуе сваю валюту.

Ільняны шпагат, які таксама намечана выпускаць і попыт на які вялікі, значна таннней палімернага.

Каб гэта стала рэальнасцю, трэба шмат папрацаваць з нашымі пастаўшчыкамі сыравіны. Не сакрэт, што пасевы льну з кожным годам скарачаюцца. Так, за дзевяць месяцаў мінулага года планавалася ў рэспубліцы вырабіць 46 тысяч тон ільновалакна, а вырабілі толькі 27 тысяч тон. Прычына адна: недапастаўка сыравіны і невысокая ўдзельная вага выхаду валакна. У нас такі выхад валакна складае 52 працэнты, па рэспубліцы — 37.

Апошнія тры гады мы нарыхтоўваем толькі 50 працэнтаў сыравіны. На жаль, падводзіць у гэтым наш родны раён.

Наводзяць на роздум і такія лічбы. 27 ільнозаводаў з 54 у рэспубліцы стратныя. Мы да іх ліку не адносімся, але стаяць на месцы і нечага чакаць не адважыліся, таму і займаемся першымі ў Беларусі карэннай рэканструкцыяй тэхналогіі перапрацоўкі льну.

**— Такая Ваша пазіцыя і дзейнасць заслугоўвае самай пільнай увагі. Няўжо чыноўнікі з «Белзнешэканомбанка» і пасля ўстаноўкі трох машын не ўпэўніліся ў тым, што праект існуе не толькі на паперы, а стаў рэальнасцю, ажыццяўляецца, нягледзячы на недальнабачнасць тых жа крэдытораў? Ці не так, Уладзімір Аляксандравіч!**

— Горш таго, тыя ж чыноўнікі ўвялі ў зман і вышэйшае начальства, што, маўляў, мы не заплацілі і за тыя першыя тры машыны, што ўстаноўлены. Вельмі крыўдна. І гэтая валакіта з крэдытамі цягнецца ўжо два гады. Гэта, паверце, такая валтузня, што свет не бачыў, і каштуе вельмі многа нерваў і здароўя. Прызнацца, бывалі мінуты, што хацелася ад усяго адрачыся, ад усіх клопатаў, што навалiліся ў гэты цяжкі час. А потым падумалася: а ў чым вінаваты калектыў, з чым яго пакіну, ці справядліва будзе? Гэтыя і іншыя пытанні не давалі спакою. І праз мінуты душэўнай слабасці ўжо са злосцю браўся за работу.

**— Усё ж, чым закончыліся, Уладзімір Аляксандравіч, Вашы хаджэнні па пакутах!**

— Пасля доўгіх такіх хаджэнняў я зусім нядаўна ўсё-такі дамогся сустрэчы са старшынёй савета дырэктароў «Белзнешэканомбанка» Георгіем Аляксеевічам Ягоравым. Ён уважліва выслухаў мяне і знайшоў усе падставы, каб выдзеліць нам так неабходны крэдыт. Я вельмі ўдзячны яму за дапамогу. Цяпер усё запланаванае будзем ажыццяўляць толькі пры адной умове. На льнозаводзе трэба стварыць асобнае прадпрыемства, якое не мае даўгоў. Гэтым зараз актыўна займаемся. І яшчэ адна навіна. Брэсцкі філіял «Банк рэканструкцыі і развіцця» таксама гатовы даць нам крэдыт пры той жа ўмове. Так што хаджэнні былі не дарэмнымі.

**— Віншую Вас, Уладзімір Аляксандравіч, з першай удачай. А цяпер хацелася б пачуць колькі слоў пра Ваш калектыў!**

— Дзякую за віншаванне. Сказаць па праўдзе, сваім калектывам я заўсёды ганаруся, заўсёды адчуваю яго падтрымку. І ў гэтым, відаць, нашы некаторыя сціплыя поспехі.

Паказальны такі факт. За перыяд маёй работы на льнозаводзе з 1979 года састаў нашых інжынераў і служачых фактычна не змяніўся.

Перш за ўсё назаву заводскіх спецыялістаў. Гэта майстры змен Л. М. Маркава і В. А. Яфрэмава, а таксама старшы кантрольны майстар Г. М. Рак, кантрольны майстар Н. М. Бакавец.

З іншых кадраў трэба адзначыць плённую працу слесара-рамонтніка механічнага цэха У. Я. Трынды, слесара-наладчыка цэха па вытворчасці часальнага льновалакна У. Р. Каржуева, аператараў В. А. Перафал, Г. П. Цалюк, М. М. Пашкевіч і З. І. Бурдзь, сартавальшчыцу доўгага валакна К. В. Мізгер, транспарціроўшчыка сыравіны Г. І. Разумейчыка, апаратчыцу хімводаачысткі Г. П. Богуш. Усіх, вядома, не назавеш, хаця ўсе заслугоўваюць пахвалы.

А на заканчэнні віншую ўсіх заводскі работнікаў з Новым годам, з Калядамі. Здароўя, шчасця і дабра Вам і Вашым сем'ям!

**— Дзякуй Вам, Уладзімір Аляксандравіч, за змястоўную гутарку. Хай збудзецца ўсё, што Вы задумалі і намецілі. З Новым годам, з новым шчасцем!**

*Гутарыў*
*С. КАЖАДУБ.*

ВАША ПІСЬМО

# КАНВЕЕР АДПІСАК ЗАПУШЧАНЫ

У канцы мінулага года ўступіў у сілу Указ Прэзідэнта рэспублікі «Аб рэагаванні службовых асобаў на крытычныя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі».

Даўно забытае старое вяртаецца. Папяровая завіруха ізноў завярцелася. Недахопаў у нашым жыцці — хоць адбаўляй. Якую б галіну народнай гаспадаркі ні вазьмі, куды ні кінь — усюды, як гаворыцца, клін. У многіх вёсках з-за адсутнасці паліва не працуюць лазні... Падстарынская моладзь сумуе без клуба... Жыхары вёскі Вялікая Гаць патрабуюць рамонту сваіх вуліц... Недзе маўчыць радыёкропка... А недзе наогул прадпрыемства ліхарадзяць прастоі... На ўсё гэта, калі прэса дзяржаўная напіша, трэба будзе кіраўнікам даваць адказ. Растлумачваць, чаму своечасова не выплачваецца зарплата, расце беспрацоўе, прадпрыемствы працуюць са стратамі, а не з прыбыткамі, а моладзь пакідае калгасы... І не проста растлумачваць, а паведамляць, якія меры прыняты да выпраўлення недахопаў. Уяўляеце, які парадак у нас хутка будзе? Дзяржаўных газет у нас шмат — калі кожная з іх хоць раз на тыдзень ды па аднаму недахопу ўдарыць, то праз пэўны, але невялікі час у нас усе лазні запрацуюць, клубы адновяцца, дарогі адрамантуюцца, заводы запрацуюць на поўную магутнасць, а калгасы ўвойдуць у паласу росквіту! Што, не верыце? Успамінаеце, як дзесяткі гадоў партыйна-савецкі друк патрабаваў ад кіраўнікоў рознага рангу рэагаванняў, і ў выніку мы сёння маем тое, што маем?

Ды, напэўна, і ніхто ў гэтыя цуды рэагавання не верыць і ўсур'ёз не ўспрымае. Людзі рэальна ацэньваюць абстаноўку. Вось патрабуюць, напрыклад, ад старшыняў сельсавета і калгаса канкрэтнага рэагавання на заметку аб дрэнным стане сельскай вуліцы. Што рабіць гэтым кіраўнікам, калі грошай на рамонт няма, а Указ Прэзідэнта трэба ўсё ж выконваць? Думаюць яны нядоўга: пішуць адказ-рэагаванне ў газету, у якім паведамляюць, што яны зусім не супраць рамонту названай вуліцы. Але акрамя яе ім яшчэ кіламетраў 10 дарог трэба адрамантаваць. Будуць грошы — усё адрамантуем. А калі грошы будуць — о, гэта ўжо размова для іншага рэагавання. І г. д., г. д...

Колькі будзе паперы страчана на рэагаванні, колькі грошай будзе выплачана тым, хто па службоваму абавязку будзе ці то патрабаваць гэтыя адпіскі, ці то складаць іх...

Між тым, ва ўсім цывілізаваным свеце прэса ніколі не патрабавала і не патрабуе ніякіх рэагаванняў на свае крытычныя выступленні. Аднак тая службовая асоба, імя якой трапіла на старонкі прэсы ў негатыўным плане, ці сама адпраўляецца ў адстаўку, ці робіць гэта па прапанове свайго кіраўніцтва. У нас жа справа пастаўлена так, што пры ўсеагульнай роўнасці нашы начальнікі аказваюцца больш роўнымі і недасягальнымі. Прыкладаў таму — шмат.

*В. МЯГКІ,*
*жыхар райцэнтра.*

● ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ТУПИК?

# Реформа системы оплаты труда отложена

Почти весь 1997 год руководители экономических министерств и официальных профсоюзов Беларуси говорили о необходимости проведения реформы заработной платы в стране. Было определено даже время этого мероприятия — январь 1998 года. И вдруг один из руководителей Федерации профсоюзов Франц Витко объявляет: обещанная реформа откладывается,при том на неопределенное время. Что же произошло и чем это вызвано?

Прежде всего отметим, что в нынешних условиях проблема заработной платы по ряду причин — одна из самых острых в белорусской экономике. Во-первых, зарплата в республике самая низкая по сравнению с соседними странами. В России, например, среднемесячная заработная плата уже достигла 170 долларов США, а в Беларуси с учетом нынешней девальвации рубля — почти в три раза ниже: где-то на уровне 60 долларов. Даже на Украине, где экономический кризис также еще не преодолен, заработная плата значительно выше. Не говоря уже о странах Прибалтики и Польше.

Во-вторых, существует неоправданная дифференциация зарплаты разных категорий тружеников. Например, заработная плата колхозников составляет 40—42 процента заработной платы рабочих и служащих, а в отдельных колхозах — и того ниже. По непонятным причинам за одинаковую работу колхозники получают меньше, чем рабочие совхозов. Несмотря на частые упоминания и удивления чиновников высокого ранга зарплата в сфере социального обеспечения составляет 60 процентов средней заработной платы в стране. Между прочим, работники социальной сферы — часть государственного аппарата, заработная плата которого значительно выше средней зарплаты рабочих и служащих. Заработная плата низкая в стране в целом, но на самом низком уровне — в лесном хозяйстве, торговле и общественном питании, в связи и на автомобильном транспорте. В-третьих, заработная плата так организована, что теряет остатки своей стимулирующей роли. В разных сферах экономики введены какие-то надбавки, социальные мелочные помощи, индексации и премии. Трудно разобраться, за что выдаются деньги и в какой мере поощряется реальный труд. К тому же доля заработной платы в доходах населения начинает снижаться. В соответствии с данными официальной статистики, при росте реальных располагаемых денежных доходов населения к соответствующему периоду прошлого года на 3 процента в структуре этих доходов зарплата составляет только 56 процентов, пенсии, пособия и стипендии — 16 процентов, доходы от предпринимательской и иной деятельности — 26, дивиденды и проценты по вкладам — 2 процента.

В тесной зависимости от уровня заработной платы находятся и пенсии. Средний размер назначенных месячных пенсий составляет только 41 процент к среднему размеру заработной платы и 57 процентов к величине минимального потребительского бюджета (МПБ). Кроме того, на зарплату постоянно «давит» инфляция, о преодолении которой больше говорят, чем делают. За 9 месяцев нынешнего года цены на потребительские товары повысились на 56 процентов. А в декабре, после девальвации рубля, они еще повысились. По различным оценкам, инфляция за три квартала прошлого года изъяла у населения от 2,8 до 4,4 триллиона рублей, а у субъектов хозяйствования — от 5,4 до 10,5 триллиона. Трудности с преодолением инфляции обусловлены тем, что за 9 месяцев прошлого года каждый процент прироста ВВП был оплачен 5,6 процентами инфляции. И это только на потребительские товары, а на продукцию промышленности — 8 процентами.

Словом, причин, чтобы провести глубокую реформу заработной платы, более чем достаточно. Видимо, в связи с этим месяц назад руководители Федерации профсоюзов Владимир Гончарик и Франц Витко весьма убедительно аргументировали в своих интервью республиканским газетам «Звязда» и «Нацыянальная эканамічная газета» необходимость реформы заработной платы. Они отмечали, что нынешнее падение доли заработной платы с 37—38 процентов от ВВП в соответствии с Генеральным соглашением до 31,1 процента просто недопустимо (но допущено), что необходимо преодолеть большую разницу в оплате труда различных категорий работников. Наконец, никак не сокращается задолженность по заработной плате. На конец октября трудящиеся не получили 713,5 миллиарда рублей. И совсем недавно Владимир Гончарик объяснил, что профсоюзы не поддержали идею очередного повышения минимальной заработной платы с 1 ноября на 10 процентов. Причина в том, что необходима, дескать, коренная реформа всей системы оплаты труда, ждать которую, мол, осталось недолго... И вдруг за какие-то три недели до Нового года заместитель председателя Федерации профсоюзов Франц Витко заявил, что запланированной на январь 1998-го реформы не будет. Она откладывается. Что же произошло?

Произошло, а точнее — происходит то, что и следовало ожидать. У государства и у субъектов хозяйствования нет необходимых денежных ресурсов, чтобы проводить коренную реформу заработной платы. Дело в том, что проведение реформы без существенного или хотя бы ощутимого повышения заработной платы теряет смысл. Ведь средняя зарплата в стране сейчас только на 20 процентов превышает МПБ. Короче, глава семьи сегодня не может прокормить даже одного ребенка, что полностью исключает возможность расширенного воспроизводства рабочей силы.

И вот повеяли иные ветры. Под воздействием финансового кризиса на всех уровнях правительство взяло курс на ограничение роста заработной платы. Такой вывод имеет немало подтверждений. Так, в официальной печати объявлено, что при переходе на почасовую тарификацию труда тарифная ставка 1-го разряда составит 3003 рубля. Это будет таким «повышением» заработной платы, когда даже не сохранится покупательная способность окладов рабочих и служащих, которая была в начале 1997 года. Ведь почасовая ставка в 3003 рубля при 164-часовом трудовом месяце даст примерно 500 тысяч рублей. А чтобы сохранить покупательную способность на уровне начала года, она должна составлять минимум 690 тысяч рублей!

Обеспокоен неорганизованным и никем неконтролируемым ростом заработной платы и сам президент. В своем Декрете N 22 он определил, что выплаты по системам премирования рабочих, руководителей, специалистов и служащих за производственные результаты свыше 50 процентов заработной платы должны осуществляться только из прибыли. И не за счет всей прибыли, а только той ее части, которая остается на предприятии. При низкой рентабельности общественного производства такое решение означает только одно — не рост, а снижение заработной платы. И это вскоре ощутят на предприятиях.

Похоже на то, что под воздействием трудно-преодолимых финансовых и производственных трудностей ветер подул в другую сторону. Изменили свою позицию и руководители официальных профсоюзов. С нового года обещается уже не реформа, а только очередное повышение минимальной заработной платы. Оно, как и предыдущие, в лучшем случае в той или иной мере лишь покроет потери от инфляции, имевшейся в конце 1997 года. В то же время нет никаких оснований полагать, что с начала нового года инфляция пойдет на спад.

*Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор. БелаПАН.*

● НА ГРАНИ НЕВОЗМОЖНОГО

# «Царствие мое не от мира сего»

Чудеса были во все времена. А каково их восприятие сейчас? Современный человек настолько напичкан информацией, что, кажется, появись среди нас Иисус Христос, его появление останется просто незамеченным.

Итальянец Джорджио Бонджиованни один из немногих, кому явилась... Богородица. Но из этих немногих он — единственный, кому святая дева дала доказательства реальности своего появления. На руках у Джорджио появились стигматы — кровоточащие раны, как у Христа после распятия. Это случилось 4,5 года назад. С тех пор Бонджиованни ездит по миру и рассказывает людям о послании, переданном ему Девой Марией. Оно начинается словами:

«Великая кара падет на все человечество...».

Бонджиованни побывал в Испании, Аргентине, Швейцарии, Бельгии, Франции, других странах. И вот настал черед России. Но не из-за очередности, а в силу особого отношения Джорджио к русской нации. Как он сам сказал, ему было возвещено, что «на России лежит великая планетарная миссия — преобразовавшись, нести свет духовности всему миру».

Конечно, трудно было предположить, что журналисты, пришедшие на пресс-конференцию Джорджио в Москве, будут с открытым ртом ловить каждое его слово, как посланника Девы Марии. От той религиозности, которая была до Октября, теперь почти ничего не осталось. С другой стороны, в вопросах, задаваемых итальянцу, не было той агрессивности, что сопровождает в наше время почти любое собрание, будь то Верховный Совет, митинг или просто какое-то совещание. Возможно, сработал чисто человеческий фактор — Бонджиованни появился почти в домашнем облачении: в белом тренировочном костюме, мягких туфлях, незаживающие раны были видны на руках. О ранах на ногах можно было догадываться по тому, как он ступал, осторожно, ставя стопу боком. Да и выглядел он не как феномен, а как самый обычный человек, такой же, как все мы: облик отнюдь не аскетический, глаза не горящие божественным огнем, речь тихая и ровная, движения плавные. Но, может быть, как раз в этом и кроется тайна такого феномена в нашей жизни, как ПРОРОЧЕСТВО, как ПОСЛАНИЕ.

Моисей был громадного роста, с громоподобным голосом и потрясал мощью. Христос к среднему человеку стоит уже намного ближе. Бонджиованни уже вообще ничем не отличается от самого среднего человека, в толпе он просто растворится. Если допустить, что Посылающий, формируя облик посланника, учитывает уровень восприятия, то все логично. Современного человека ничем не удивишь — ни внешними данными, ни внутренними. Мы не слышим друг



*Итальянцу Джорджио Бонджиованни явилась Богородица. Святая дева дала доказательства своего появления. На руках у Джорджио появились стигматы — кровоточащие раны, как у Христа после распятия.*

друга, только себя. Так, может быть, только из уст такого среднего, ничем не отличающегося от нас человека, как Бонджиованни, и способна дойти до нашего слуха ИСТИНА.

Не случайно на первый вопрос: почему, по его мнению, Дева Мария именно его выбрала посланником, Джорджио ответил обезоруживающе просто, сразу отметая какую бы то ни было исключительность:

— Сам не знаю. Я — такой же, как вы. Я — один из вас. Может быть, именно сейчас, здесь, с вами, я пойму это. Может быть, вы мне поможете это понять.

Он мог бы сразу привлечь внимание к своим ранам, как к чуду, и показать официальные бумаги от светил европейской медицины. Там сказано, что стигматы — не результат болезни, а явление, необъяснимое с точки зрения науки. Мог бы представить множество медицинских карт больных людей, которые излечились с помощью ткани, смоченной кровью из его ран. Но заговорил он об этом в последнюю очередь и только тогда, когда его спросили. И опять ответ был безличностный:

— Кровь из моих ран — это кровь Христа, его страдание за людей, лишенных любви, враждующих друг с другом, забывших о ней. С его кровью я — вместе с вами, потому что она говорит о том, что он продолжает страдать за нас. Если б это была моя кровь, я, истекая ею каждый день, давно бы умер, потому что переносить такую потерю крови человек не может.

В кровотечениях Джорджио в самом деле привычного нам мало. Если у кого-то из нас вдруг откроется рана на руке или стопе, начнет сочиться кровь, а потом перестанет, то что-то делать этой рукой или тем более стоять на такой ноге никто из нас не сможет, пока раны не заживут. На это уйдет при нормальной свертываемости крови не один день. Кровь у Бонджиованни самая обычная, как показывают анализы. Тем не менее раны затягиваются сразу и заживляются так быстро, что рукой Джорджио может писать, а на ногах — стоять и даже ходить! В этом явлении есть нечто общее с филиппинским феноменом, когда ткань больного тела под руками хиллеров мгновенно расходится вплоть до мышц и костей, а затем более безболезненно соединяется вновь. Напрашивается и еще одна аналогия — с НЛО, который в полете на глазах у очевидцев разлетается на отдельные куски, чтобы тут же вновь слиться в единое целое. Иначе говоря, только энергия высокого порядка способна вытворять с материей подобные вещи, вопреки всем известным нам физическим законам. Вопрос в том, кто управляет этой высокой энергией...

Своего рода феноменом, характерным именно для посланцев, можно считать и предельную простоту ответов итальянца. На первый взгляд они могут показаться даже примитивными. Например, на вопрос «как выявить Антихриста?» он отвечает :

— Это легко сделает каждый из вас, стоит только посмотреть вокруг себя. Кто делает атомное оружие? Кто отравляет природу? Кто лжет? Кто убивает? Кто утверждает, что его религия лучшая и отвергает все другие? И таких проявлений Антихриста множество.

На вопрос: «Как выглядит живой Бог?» — он предлагает посмотреть на солнце.

— Можете вы смотреть на него, не отрываясь? — спрашивает он. — Не оно ли дает вам тепло, свет, радость, саму жизнь? Не оно ли дарит энергию? Это живое существо, с божественным разумом, может быть, это сам божественный разум, сам Бог... Он не учит поклоняться только ему и отвергать других богов. Он просто учит любить...

Примерно так же, по свидетельствам современников, отвечала на вопросы в 1431 году Жанна Д'Арк. Казалось бы, откуда так много общего у людей, живущих в разные эпохи? Та же простота, та же ясность, тот же твердый отказ от личной жизни ради идеи, та же кажущаяся наивность, те же прописные истины из Нагорной проповеди...

Может быть, ключ — во фразе Христа: «Царствие мое не от мира сего»? Когда «мир сей» — это все мы с собственными интересами и целями, мешающими услышать и понять друг друга, а посланцы, появляющиеся с вестью, «не от мира сего», напоминают, какими мы должны быть.

